

нумары: „БЯРОЗАЎЦЫ" | Шляхам загінуўшых прылад | Палікарп Пузіна і яго барацьба з забабонамі


# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА - КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА.

№ 38 (499) | ГОД X | 19 ВЕРАСНЯ 1965 года | ЦАНА 60 гр.


## Сосны шумяць

Сосны шумяць над магутнай ракою,
Горда з кургана на хвалі глядзяць.
Раніцай веснай, часінай начною
Сосны шумяць.

Вечна зялёныя, вечна жывыя,
Як вартавыя, на кручы стаяць
І, хоць віхуры ламалі іх злыя,
Сосны шумяць.

Ні навальніцы, ні вецер студзёны
Іх не змаглі і не змогуць зламаць.
Над ліхалеццем ускінуўшы кроны,
Сосны шумяць!

І на прадвесні, і лютай зімою
Па наваколлі іх голас чуваць:
Сосны шумяць над магутнай ракою,
Сосны шумяць.

Пройдуць гады — і з нас многіх не стане,
Будзем спакойна-спакойна мы спаць,
Бо над Радзімай, на гордым кургане
Сосны шумяць...

МІКОЛА АЛТУХОЎ





У Дабрывадах.

# Пра Дабрывады па-добраму

ВІКТАР РУДЧЫК

З Кляшчэляў у Дабрывады 4 кіламетры. Едзем рэдакцыйнай «Варшавай». Суправаджае нас старшыня кляшчэлеўскай грамады. Машына імчыцца па роўнай «жвіроўцы». Дарога прамая, без жывапісных паваротаў, быццам нацягнутым шнурком спалучае Дабрывады з Кляшчэлямі.

— Не так даўно, — інфармуе старшыня, — гэтай дарогі зусім не было. На кірмаш у Кляшчэлі, які ў нас ад нятамятнага часу адбываецца ў кожны панядзелак, прабіраліся дабрывадаўцы ў акружную — праз лес, надрабляючы дадаткова 2 кіламетры дарогі. Тут царствавала непраходная дрыгва.

Сапраўды, па абодвух баках жвіроўкі распасціраецца зялёны прастор. Сакавітая трава хвалямі пераліваецца ў парывах ветру. Роўны, толькі дзенідзе парэзаны равамі, зялёны дыван лугоў разаслаўся аж да краю кругагляду. Гэта адрос ужо другі пакос. **Адразу відаць, што расце тут трава высокай якасці, што сенажаць загаспадаравана згодна з усімі правіламі сельскагаспадарчай навукі.**

У Дабрывады еду першы раз. Тутэйшых гаспадароў яшчэ не ведаю, але думаю пра іх ужо з вялікай сімпатыяй, як пра гаспадароў, якія ведаюць, чаго хочуць.

Добрая дарога, пабудаваная, зразумела, грамадскім чынам і старанна загаспадараваная сенажаць з'яўляюцца першымі, але не апошнімі, прызнакамі іх гаспадарнасці.

Машына імчыцца брукаванай вуліцай (брукаванай грамадскім чынам) і спыняецца на ўскраіне вёскі. Ля дарогі ляжыць горба шляка-бетонных «пустакаў», а над зямлёю выведзены фундамент прасторнага гмаху.

— Глядзіце, вось тут будзе школа, якую будуюць сабе дабрывадаўцы.

Старшыня гаварыў яшчэ далей. Але маю ўвагу асабліва звярнулі словы:

**«...будуюць сабе...»**

Шчыра кажучы, не зусім самі. Аддзел культуры і асветы Павятовай рады ў Гайнаўцы фінансуе ім палавіну коштаў. **А ўсё ж яшчэ для дабрывадаўцаў трэба вылажыць з уласнай кішэні аж 150 тысяч злотых.** У сярэднім, больш-менш, па паўтары тысячы ад кожнага гаспадара. Гэта не мала! Вядома, не абавязкова грашыма, можна паехаць па цэмент, пры-

(Працяг на стар. 4)



— Да канца бягучага года школа будзе гатова, — сцвярджае старшыня кляшчэлеўскай грамады.

Фота Г. Рагазінскі

# З жыцця БГКТ
## У ПРЭЗІДЫУМ ГП БГКТ

Выстаўка аб Грамадзе.
Папулярна-навуковая сесія.
Пленум ГП БГКТ.
Гастролі Забэйды.
Пласцінка беларускіх песняў.

**3 верасня г.г. адбылося пасяджэнне Прэзідыума Галоўнага Праўлення Беларускага грамадска - культурнага таварыства, прысвечанае чарговым заданням у бліжэйшым перыядзе. Тут абмеркавана далейшыя мерапрыемствы, звязаныя са святкаваннем 40-годдзя Грамады. У першую чаргу ў гэтай галіне вырашана спапулярызаваць сярод свайго актыву выстаўку, прысвечаную Грамадзе, якая намаганнямі ГП БГКТ і Музея рэвалюцыйнага руху ў Беластоку адкрываецца 18 верасня г.г. у памяшканні вышэй упамянутага музея. Выстаўка ў Беластоку будзе дзейнічаць цэлы месяц, затым будзе экспанавана ў пасобных аддзелах нашага Таварыства.**

**Важнай падзеяй у жыцці БГКТ будзе таксама папулярна-навуковая сесія, прысвечаная Грамадзе, якую ГП БГКТ арганізуе супольна з ВК ПАРП у Беластоку 25 кастрычніка г.г. Прэзідыум вырашыла матэрыялы сесіі выдаць друкам, а таксама карыстаючыся імі правесці даклады ў гуртках Таварыства.**

**Набліжаецца 10 гадавіна дзейнасці Таварыства. У сувязі з гэтай датай у лютым наступнага года адбудзецца з'езд нашай арганізацыі. Раней адбудуцца канферэнцыі аддзелаў. Гэтым справам у асноўным і будзе прысвечана пленарнае пасяджэнне ГП БГКТ, якое вырашана правесці 24 кастрычніка г.г.**

**Прэзідыум абмеркавала таксама асветныя справы, якія ў нас выглядаюць не найлепш. Вырашана перш за ўсё накіраваць увагу на арганізацыю праблемных курсаў і заняцца вырашэннем пякучай праблемы настаўнікаў беларускай мовы: стварэннем магчымасці здабыцця вышэйшай адукацыі шляхам завочнага навучання.**

**Урэшце Прэзідыум ГП БГКТ вырашыла запрасіць на гастролі вядомага беларускага спевака Міхася Забэйду-Суміцкага, які пастаянна жыве ў Празе. Прыезд спевака прадбачваецца ў кастрычніку г.г. Вырашана таксама выдаць доўгаграючую пласцінку беларускіх народных песняў у выкананні Міхася Забэйды-Суміцкага. Прапануецца найграць спевака ў суправаджэнні вядомага аркестра мандалiністаў Цюкшы. У гэтай справе ідуць перагаворы з зацікаўленымі асобамі і ўстановамі.**

(рл)




**С. Яновіч: ДУБІЦКІЯ КЛІНЫ.**

**Ул. Паўлючук: АЙЧЫНА.**

**Г. Валкавыцкі: БЕЛАРУСКАЯ ЛІРЫКА.**

**М. Пецюкевіч: НАШ ЗЯМЛЯК — РЭКТАРАМ УНІВЕРСІТЭТА.**

# Насы, носікі і насішчы



Насы вырашалі аб лёсе свету. Даволі прыпомніць славуты нос Клеапатры ці нос Напалеона. Каб былі іншыя — наша гісторыя выглядала б інакш. Нічога дзіўнага, нос гэта найбольш важны «элемент» чалавека, свайго роду «візітная картачка» і «шыльда». Пакажы мне свой нос, а я скажу табе, хто ты... Не, не трэба паказваць. Нос паказваецца сам. Хопіць толькі глянуць, і ўжо ўсё вядома.

Нос не толькі ўпрыгожвае чалавека — ён паказвае таксама на характар гаспадара. Іншы характар мае ўладальнік носа, іншы — носіка, урэшце іншы — насішча. Зусім іншае гаворыць аб чалавеку нос рымскі, а зусім іншае грэчаскі. На іншыя прыкметы паказвае кірпаты нос, на іншыя доўгі, на іншыя тоўсты і.т п. Разнастайнасць насоў агромная. І вялікая разнароднасць людскіх характараў.

Дык вось — увага!

Нос магутны, тоўсты — найчасцей абазначае брак усялякага сораму і далікатнасці ў паводзінах. Яго ўладальнік не лічыцца з думкамі іншых, стараецца дасягнуць свайго за ўсялякую цану.

Нос вытанчаны, зграбны — абазначае ўражлівасць, далікатнасць, высакародныя пачуцці і ўнутраную раўнавагу.

Нос кароткі, кірпаты, тоўсты на канцы, з расшыранымі ноздрамі — абазначае пачуццёвасць, прагнасць і ўдачу ў жыцці. Але таксама — мала пільнасці ў працы, зменлівасць намераў і няроўны характар.

Нос тонкі, высунуты уперад, сагнуты і касцісты — абазначае нязломную працавітасць, амбіцыю, зразумела акрэсленую мэту ў жыцці. Але таксама — інтэлігенцыю і схільнасць да сябелюбства.

Нос кірпаты з рухавымі ноздрамі — абазначае схільнасць да весялосці, уменне жыць з людзьмі, але і пэўную павярхоўнасць. Чалавек з такім носам не з'яўляецца верным у каханні, і верыць яму надта не трэба.

Нос просты, закруглены на канцы, з жывымі ноздрамі абазначае стрыманасць і спакой, раўнавагу і дабрату. Уладальнік такога носа з'яўляецца таварыскім, добразычлівым, разумее асяроддзе і з ахвотаю яму дапамагае.

Нос плоскі, шырокі каля вачэй, сухі — абазначае брак цярплівасці і веры ў самога сябе. Найчасцей здраджвае схільнасць да педантызму і даволі ўмацаваныя, хаця трохі дзіўныя прынцыпы. Чалавек з такім носам наогул з'яўляецца даволі працавітым, але мала таварыскім. Гумар мае зменлівы, часам без прычыны выбухае гневам.

Нас просты, а доўгі пры блакітных вачах паказвае на імкненне да ідэалаў.

Нос просты і тоўсты гаворыць аб дабрадушнасці, грубых схільнасцях і неахайнасці.

Чым мацней нос афарбаваны на фіялетавы колер — тым глыбей заграз чалавек у балоце азарту...

А дзе класічны рымскі нос? Як ён выглядае — не ведаем. Але калі спасярод вашых знаёмых знойдзецца хтосьці, хто да такога носа прызнаецца — ведайце, што абазначае ён рашучасць, энергію, упэўненасць у сябе, пагарду для ўсялякіх прызнаных форм жыцця.

Сцеражыцеся тады людзей з такімі насамі.

(а-ліў)

ПА СВЕЦЕ

## Арабскі стыль

На здымку: у сонечнай паўночна - афрыканскай краіне Тунезіі ў горадзе Эспланада - гасцініца. Па знешнему выгляду яна ўтрымана ў традыцыйнай архітэктуры арабаў (арабскі стыль), але, як кажуць сведкі — унутры ўсё суперсучаснае і выгоднае (еўрапейскі стыль).

(вл)





# МІЛЬЁННАЯ ТОНА СЕРЫ

Быў год 1953, калі геолагі адкрылі ў аколіцах Тарнабжэгу вялікія залежы сераноснай руды. У 7 год пазней ужо працавала шахта і фабрыка. У 1965 г. Тарнабжэг даў мільённую тону чыстай серы. Ад 1970 года штогод будзем атрымліваць мільён і займем другое месца ў свеце ў прадукцыі серы. Што дае сера? Квас серны, пылісты суперфасфат, хімічныя прадукты для спіртнай прамысловасці, авадабойныя сродкі, сціральныя парашкі.

На здымку: экскаватар падае серу на транспарцёры, адтуль яна вандруе ў вагоны. (вл)

МАЛА, АЛЕ ЦІКАВА

## Атамнае сэрца

Доктар Юкіхіно Носэ ЗША лічыць, што атамны рухавік вагой 4,5 фунта і размерам 6х3 дзюма можна памясціць у брушную поласць чалавека. Яго цёплаабменнік будзе спалучаны з падуздышнай артэрыяй. Гэта ядзерна - механічная будова, паводле думак Носэ, прызначана да змены хворага сэрца. (ака)

АЛЯКСЕЙ КАРПЮК

# ПУШЧАНСКАЯ АДЫСЕЯ

Заданне ў мяне, на маю думку, лёгкае: даведацца, дзе стаяць немцы, колькі іх, што вязуць па чыгунцы, па шашы. Што і сам ведаю, што дабаўляе бацька.

У Страшаве даўно не стала маіх равеснікаў. Частка яшчэ да вайны завербавалася на Урал, астатніх немцы пагналі ў Германію. Нават на станцыях і паўстанках пераважна працуюць незнаёмыя мне людзі. У лагер збіраецца пайсці са мной толькі двайх, але вяртацца яшчэ не хочацца, карціць выкінуць немцам які-небудзь фокус.

Аставалася магнітная міна. Яе перадаю лесніку Карповічу. Яшчэ застаецца тры кілаграмы толу і кавалак бікфордава шнура. Поезд гэтым не ўзарвеш. Падарваць бы стрэлку ў Валілах! Дарога туды вядзе лесам, у ім ведаю кожны кусцік. Адзіная перашкода — рэчка Супрасль — незамерзлая, з чыгуначным і шасэйным мастамі, але ахоўваецца толькі першы.

Выходжу з хаты вечарам. Перад самымі Валіламі, на ўскраі хвойніка, натыкаюся на доўтую, барачната тыпу, будыніну. Пры Польшчы тут быў клуб лесапільнага завода. І цяпер у ім нешта такое самае, чуваць, там рэжа духавы аркестр, і ва ўсю ідуць танцы. Сёння ж нядзеля! Ёсць жа людзі, якія адзначаюць яе, нібы ў даваенны час!



Асцярожна мінаю барак, вылажу на пуць. Перада мной — асветленая электрычнасцю тэрыторыя. Справа — аўтастрада з адшліфаваным асфальтам. Злева — шарэнга маўклівых дамоў з шапкамі снегу. Спераду — стрэлачная будка. За будкай — пункцірчыкі чырвоных, жоўтых і зялёных агеньчыкаў на стрэлках і семафорах. Ля вакзала пішчыць манеўровы паравоз. Гудуць тэлефонныя правады. У будцы рагочуць мужчыны. Ззаду аркестр усё наярвае бравурную мелодыю. Навокал — ні жывой душы!

Падыходжу ўздоўж выкаўзанай паяздамі і добра намазучанай рэйкі. Вось і вілка стрэлкі. Паспешліва суну ў вілку пакет з толам, азіраюся. Гэтак сама бялеюць дахі, бесклапотна рагочуць людзі ў будцы, а барабаны і талеркі выбіваюць рытм. Шнура маю адно шэсцьдзесят сантыметраў. Бегчы трэба будзе на ўсход па найкарацейшай дарозе, яна якраз вядзе ля барака. Вядома, хто там танцуе: немцы з паліцаямі! Мінуць барак лепш да выбуху. Не трапіць на перапынак, танцоры выйдуць на свежае паветра...

Прыслухоўваюся апошні раз. Іграюць факстрот «Розэ мундэ». Гэтую мелодыю люблю. Якраз барабаны з талеркамі прыціхлі, саксафоны цягнуць калена, дзе хлапец на паўтонах просіць дзяўчыну падараваць яму сэрца. Пойдзе адказ самой Розы. За ім — прыпеў. Часу шмат. Падаю на рэйкі. Устаўляю ў тол узрывацель, суну ў яго бікфорд. Чыркаю запалку, агеньчык прытыкаю да другога канца шнура. Бікфорд не загараецца. Нічога, толькі не гарачыцца, запалак — поўны карабок. Чыркаю другую, трэцюю запалку, але зноў нічога не выходзіць. Падмок? Бікфорд, здаецца, вільгаці не баіцца, гарыць нават у вадзе!.. Чорт, мо' для вады іншы ўжываецца?!.. От дык гісторыя!.. Так мне і трэба, Чыгроў пытаўся, ці ўмею з толам абыходзіцца, паспадзяваўся на кемлівасць, цяпер маеш!..





Месца, дзе Карпюк узарваў стрэлку.

